МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№6 (122)
чэрвень 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### Гарэцкія чытанні прайшлі ў 20-ы раз

14 траўня ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася штогадовая міжнародная навуковая канферэнцыя, на гэты раз юбілейная – XX Гарэцкія чытанні.

*Працяг на стар. 2*

### Іркуцкія беларусы: "Мы не экстрэмісты"

Калона сяброў Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага ўзяла ўдзел у гарадскім карнавале, які адбыўся ў Дзень горада.

*Працяг на стар. 4*

### На радзіме Васіля Быкава ўручылі прэмію "За свабоду думкі"

19 чэрвеня, у дзень народзінаў Васіля Быкава, на яго радзіме, у вёсцы Бычкі на Ушаччыне, уручалі прэмію "За свабоду думкі".

*Працяг на стар. 5*

### Беларусь вярнула Статут ВКЛ 1588 года

Эпапея з набыццём арыгінальнага асобніка Статута Вялікага Княства Літоўскага ўзору 1588 года скончаная.

*Працяг на стар. 6*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## Названыя лаўрэаты прэміі імя Міколы Ганька

Сёлета ў чацвёрты раз уручылі прэмію імя Міколы Ганька. Лаўрэаты гэтага года – настаўніцы Зінаіда Губарава-Крупская з Вілейкі і Ніна Сакава з Асіповіцкага раёна.



*Зінаіда Губарава-Крупская*

Камісія па прэміі разглядае дасланыя мастацкія і публіцыстычныя творы на беларускай мове, прысвечаныя жыццю і дзейнасці беларускай дыяспары ў Канадзе.



*Ніна Сакава*

Гэтай узнагародай вырашана адзначыць іх працу на карысць беларушчыны ў рэгіёнах, бо якраз у правінцыі, дзе застаешся адзін, гэта рабіць складаней, чым у сталіцы, падкрэсліла на ўручэнні дыпломаў пісьменніца Вольга Іпатава. Менавіта яна была першай, хто атрымаў гэтую прэмію.

Прэмію ў 2009 годзе заснавала Марыя Ганько ў памяць аб сваім мужы. Прэмія з'яўляецца штогадовай, яе прысуджаюць у траўні: у гэтым месяцы нарадзіўся Мікола Ганько.

Раней прэміяй былі ўганараваныя Вольга Іпатава (2009), Віялета Кавалёва (2010), Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"(2011).

Мікола Ганько (1924-1999) — дзеяч беларускай эміграцыі. Нарадзіўся ў Маладзечанскім раёне. У 1944-м выехаў з Беларусі ў Аўстрыю, а потым — у Канаду, дзе стаў адным з арганізатараў жыцця беларускай дыяспары.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Прыемная вестка з Лондана

Лонданская Брытанская бібліятэка падзякавала ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" за дасылку "Кнiганошы" — англамоўнага каталога беларускіх кніг. Беларускі каталагізатар бібліятэкі Рыма Лок выказала зацікаўленасць у атрыманні далейшых выпускаў выдання.

Першы нумар каталога "Кнiганоша" нядаўна быў дасланы славянскім аддзелам бібліятэк і цэнтрам вывучэння славянскіх культур у 30 краін свету.

Цяпер да выдання рыхтуецца другі нумар каталога, які будзе змяшчаць інфармацыю пра беларускамоўныя кнігі, што выйшлі ў 2011 годзе ў кніжных серыях "Кнігарня пісьменніка", "Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў", "Бібліятэка Бацькаўшчыны", кнігарня "Наша ніва", "Гарадзенская бібліятэка", незалежных выдавецтвах "ЛогвінаЎ", "Галіяфы", "Медысонт", "Кнігазбор", "Радыёла-Плюс", "Лімарыус", выдавецтвах Віктара Хурсіка, Змітра Коласа ды інш.

*Прэсавая служба СБП*

# НАВІНЫ КАМПАНІІ “БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!”

## Стэфан Эрыксан стаў ганаровым старшынёй журы Фестывалю AD.NAK!

Амбасадар Каралеўства Швецыя ў Рэспубліцы Беларусь Стэфан Эрыксан узначаліў журы намінацыі “Грамадска значныя праекты ў галіне мастацтва і культуры” Трэцяга фестывалю беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK!, што ладзіць кампанія “Будзьма беларусамі!“.

Стэфан Эрыксан – знакавая фігура не толькі ў дыпламатычных адносінах паміж Беларуссю і Швецыяй, але і ва ўнёску ў беларускую культуру. Стэфан Эрыксан горача падтрымлівае ідэю правядзення Фестывалю AD.NAK! і лічыць, што сітуацыя на рэкламным рынку змяняецца ў бок павелічэння колькасці беларускамоўных прадуктаў.

“Фестываль AD.NAK! – вельмі добрая ініцыятыва, якая спрыяе ўмацаванню пазіцый беларускай мовы ў рэкламе і не толькі. Такія імпрэзы вельмі патрэбныя, каб сабраць найлепшую беларускую рэкламу і прадэманстраваць усю яе моц і прыгажосць. Дагэтуль рускамоўная рэклама дамінавала, але сітуацыя змяняецца,



і гэта цешыць: беларускай рэкламы робіцца больш, хоць пакуль яшчэ і не хапае. Прыемна бачыць, што беларуская камунікацыя выкарыстоўваецца не толькі беларускім, але і замежным бізнесам, што сведчыць пра яе паўнавартасны статус. Таму чакаем ад Фестывалю якасна новых працаў – і ад беларускіх, і ад замежных вытворцаў і рэкламістаў”, – сказаў сп. Эрыксан.

Амбасадар таксама адзначыў, што не кожнаму замежніку зразумела праблема двухмоўя, што праяўляецца ў рэкламнай сферы. Але, знаходзячыся ў Беларусі, адразу разумееш, што такая праблема ёсць. Аднак, адзначае сп. Эрыксан, хочацца, каб мова ўзмацняла свае на сённяшні дзень досыць сціплыя пазіцыі ў сферы рэкламы. Бо менавіта беларускамоўная рэклама прыцягвае, “чапляе” людзей. Яна выглядае цікавейшай і свяжэйшай, бо вылучаецца з агульнай інфармацыйнай плыні.

Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў сёлетняга Фестывалю адбудзецца 5 ліпеня ў Мінску. На працягу Вялікага фестывальнага дня будзе праходзіць адукацыйная праграма, якая будзе складацца з майстар-класаў вядучых беларускіх і замежных рэкламістаў, круглых сталоў і сустрэчаў з удзелам прафесійных гульцоў рэкламнага і камунікацыйнага рынкаў Беларусі.

*budzma.org*

# ГАРЭЦКІЯ ЧЫТАННІ ПРАЙШЛІ Ў 20-Ы РАЗ

14 траўня ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася штогадовая міжнародная навуковая канферэнцыя, на гэты раз юбілейная – XX Гарэцкія чытанні. Гэтым разам навукоўцы працавалі па тэме “Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць“.

На думку паэта Генадзя Бураўкіна, лёс Беларусі склаўся так, што словы і думкі братоў Гарэцкіх застаюцца надзённымі і сёння.

“Трэба ўсё больш і больш азірацца. Яны ад нас аддаляюцца ў часе, але яны ўсё больш і больш набліжаюцца да нас духоўна. Трэба і прачытаць яшчэ раз, а хто не чытаў, адкрыць для сябе Максіма Гарэцкага, выдатнага пісьменніка. І трэба пазнаёміцца з унікальным чалавекам, вялікім беларусам, вялікім вучоным Гаўрылам Іванавічам Гарэцкім. Чым больш мы будзем ведаць такіх людзей, тым багацейшымі мы будзем. І тым больш у нас будзе надзеі, што ў Беларусі ўсё будзе добра“.

Акадэмік Радзім Гарэцкі, сын Гаўрылы Гарэцкага, лічыць, што пытанні, якія хвалявалі ягонага бацьку і дзядзьку, і цяпер не страцілі актуальнасці для Беларусі.

“Яны адны з выдатных адраджэнцаў мінулага стагоддзя. І калі паглядзіш іх творы, то бачыш, наколькі яны актуальныя зараз. Тыя ж самыя пытанні: аб незалежнасці, аб мове, аб культуры, аб пашырэнні беларускай мовы. Тыя ж самыя пытанні. На жаль, мы ніяк не можам стаць па-сапраўднаму самастойнай, незалежнай, нацыянальна свядомай, еўрапейскай дзяржавай“, - адзначыў сп. Гарэцкі.

Падчас чытанняў прайшла аўтограф-сесія Радзіма Гаўрылавіча, арганізаваная МГА “ЗБС “Бацькаўшчына“. Яго кніга “Браты Гарэцкія” – важны ўнёсак у даследаванне біяграфіі Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. Яна ўтрымлівае ўнікальныя дакументы і сведчанні пра жыццё і дзейнасць гэтых выбітных дзеячаў беларускага нацыянальнага руху XX стагоддзя, фотаздымкі з сямейнага і дзяржаўных архіваў, архіваў сяброў.

**Даведка:**

Максім Гарэцкі – адзін з пачынальнікаў эпічнага жанру ў беларускай літаратуры. Актыўны дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі і БССР. Расстраляны Саветамі ў 1938 годзе.



*Радзім Гарэцкі*

Гаўрыла Гарэцкі – вядомы беларускі геолаг, географ і эканаміст, адзін з заснавальнікаў і акадэмік Беларускай акадэміі навук. Ён апублікаваў больш за 160 навуковых прац, у тым ліку па фальклоры, дэмаграфіі і археалогіі. Памёр у 1988 годзе.

Штогод у чытаннях удзельнічаюць каля 40 літаратуразнаўцаў, моваведаў, гісторыкаў і інш. Па выніках канферэнцыі выдаюцца зборнікі матэрыялаў.

*Паводле racyja.eu*

# ІНТАРЭСЫ БЕЛАРУСІ НА КАНФЕРЭНЦЫІ Ў БРУСЕЛІ ПРАДСТАЎЛЯЛА РАДА БНР

У Брусэлі ў Еўрапарламенце адбылася міжнародная канферэнцыя "Прававое ўрэгуляванне злачынстваў камунізму".

Гэта не першая міжнародная канферэнцыя, прысвечаная палітычнаму і юрыдычнаму аналізу злачынстваў камунізму. Цягам апошніх гадоў гэты форум пераўтварыўся ў своеасаблівы сталы орган — з удзелам палітыкаў, навукоўцаў, актывістаў праваабарончых арганізацыяў. У 2008 годзе ў Празе ўдзельнікаў канферэнцыі вітаў Вацлаў Гавэл, ганаровым госцем і выступоўцам была старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. У лютым 2010 года, таксама ў сталіцы Чэхіі, з дакладам аб прававых аспектах камуністычных злачынстваў у Беларусі выступаў Зянон Пазняк.

Сёлета арганізатарам канферэнцыі выступіў Еўрапарламент, удзельнікі сабраліся ў Брусэлі.

Сваё прывітанне ўдзельнікам канферэнцыі даслала старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, якая адзначыла, што ў Беларусі цягам дзесяцігоддзяў фізічнае знішчэнне людзей камуністычнай сістэмай спалучалася з сістэматычнай русіфікацыяй, здушэннем мовы, культуры, нацыянальных адметнасцяў. "Беларусь і сёння пакутуе ад праўлення прамых палітычных наступнікаў камуністычнага рэжыму", — адзначыла Івонка Сурвілла.

На канферэнцыі з дакладам "Да пытання аб прававым урэгуляванні злачынстваў камунізму: беларуская перспектыва" выступіў намеснік сакратара замежных справаў Рады БНР Мікола Пачкаеў (Лондан).

Ён нагадаў, што "дэмакратычная беларуская дзяржава была абвешчаная цалкам незалежнай 25 сакавіка 1918 года. БНР была прызнаная некалькімі дзяржавамі, але ў выніку недахопу падтрымкі з боку вялікіх дзяржаў таго часу, у пачатку 1919 года БНР была захопленая Чырвонай Арміяй Савецкай Расіі, яе дзяржаўныя інстытуцыі выправіліся ў выгнанне. Беларусь была абвешчаная савецкай рэспублікай. Затым яна была падзеленая паміж Савецкай Расіяй і Польшчай паводле Рыжскай мірнай дамовы ў 1921 годзе. Лялечная БССР была аднооўленая на ўсход ад гэтай мяжы, уключаная ў склад СССР, і зазнала бальшавіцкі і сталінскі тэрор. З 1929 года камуністычныя "сацыяльныя чысткі" ў Беларусі былі дапоўненыя сістэматычным пераследам і знішчэннем нацыянальнага адукаванага класа.

Пасля верасня 1939 г. тая самая доля напаткала заходнія раёны Беларусі. Рэпрэсіі працягваліся і ў меншых маштабах пасля Другой сусветнай вайны. Агульная колькасць ахвяраў, якія можна прасачыць па дакументальных спасылках, у цяперашні час ацэньваецца прыкладна ў 700 000, г. зн. каля 10% насельніцтва. Колькасць забітых у Курапатах пад Мінскам, часткова



*Івонка Сурвілла*

раскапаных ў 1988 годзе, паводле ацэнак, налічвае больш за 150 000 ахвяраў. Ганенні на дысідэнтаў і палітыка "раздзяржаўлення" ў Беларусі працягвалася ў розных формах аж да канца перабудовы".

Мікола Пачкаеў нагадаў, што ў 1990-1991 дэпутацкая група БНФ у Вярхоўным Савеце дамаглася прыняцця некаторых прававых нормаў у дачыненні да ахвяраў рэпрэсій, аднак пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі, у 1995 годзе, ахвяры былі пазбаўленыя ільготаў. Нарэшце, паведаміў спадар Пачкаеў, цяперашнія рэпрэсіі ў Беларусі зрабіліся магчымымі ў тым ліку і таму, што ў Беларусі, у адрозненне ад шмат якіх краінаў Усходняй Еўропы, камуністычная сістэма не была асуджаная.

Значная частка выступу прадстаўніка БНР была прысвечаная прававой ацэнцы злачынстваў камунізму. На думку Міколы Пачкаева, у выпадку з Беларуссю можна казаць пра юрыдычны тэрмін "бесперапыннасці" камуністычных злачынстваў — бо адбылося аднаўленне элементаў камуністычнай сістэмы.

Ад імя сакратарыяту замежных справаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спадар Пачкаеў прапанаваў увесці ў Еўрасаюзе судовую адказнасць за злачынствы камунізму без тэрміну даўніны. Рада БНР у выгнанні будзе заклікаць будучую дэмакратычную ўладу ў Беларусі падтрымаць стварэнне міжнароднага суду за злачынствы камунізму і камуністычных злачынстваў вытворных, без тэрміну даўніны. "Мы лічым, што прызнанне юрысдыкцыі судовага органа павінна быць абавязковай умовай для любой дзяржавы, якая хоча ўступіць у пагадненне аб асацыяцыі альбо далучэнні да Еўрасаюза ці ўступаць у іншыя тыпы пагадненняў з ЕС", — заявіў у Брусэлі прадстаўнік Рады БНР.

*svaboda.org*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў ліпені: Алену Макоўскую (Беларусь), Яўгена Грушу (Аўстралія), Алега Давідзюка (Літва), Барыса Сачанку (Беларусь), Сяргея Кандыбовіча (Расія). Зычым натхнення і ўсмешак, моцы духу і плёну ў працы, а таксама любові і шчасця!

У ліпені наступныя сябры Вялікай Рады святкуюць юбілеі:

4 ліпеня – Ганна Сурмач (ЗША), 6 ліпеня – Наталля Гардзіенка (Беларусь), 9 ліпеня – Алег Гардзіенка (Беларусь), 15 ліпеня – Алесь Ядчанка (Украіна), 20 ліпеня – Алесь Станкевіч (Беларусь).



Шчыра віншуем шаноўных юбіляраў са святам, зычым моцнага здароўя, добрага настрою, радасці і дабрабыту!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ІРКУЦКІЯ БЕЛАРУСЫ: "МЫ НЕ ЭКСТРЭМІСТЫ"

Калона сяброў Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага ўзяла ўдзел у гарадскім карнавале, які адбыўся ў Дзень горада.

Чаму было так важна прайсціся па вуліцах Іркуцка пад бел-чырвона-белымі сцягамі, распавядае Алег Рудакоў, старшыня Таварыства беларускай культуры ў Іркуцку:

"У Іркуцку тры гады таму ўзнікла раптоўна такая традыцыя — у дзень горада праводзіць карнавальнае шэсце. І ў мінулым годзе мы ўпершыню ў гэтым узялі ўдзел. Але тады ў нас было недзе 40 чалавек, а цяпер у два разы болей мы сабралі людзей. Гэта нашыя актывісты, маладыя ўдзельнікі з Таварыства беларускай культуры, з моладзевага клуба "Крывічы". Апроч нас, з нацыянальных аб'яднанняў удзельнічаў толькі бурацкі цэнтр і ўкраінскі, але ў іх літаральна некалькі чалавек выйшла.

Для нас было вельмі важна ўзяць удзел у гэтым карнавальным шэсці, таму што супраць нас вядзецца справа аб экстрэмізме. Я лічу, што гэта непаразуменне, але, магчыма, следчыя органы лічаць інакш".

Расійскія праваахоўныя органы ў Іркуцку распачалі супраць 26-гадовага тамтэйшага беларуса Аляксея Кухты справу аб экстрэмізме. Яму выставілі абвінавачанне паводле артыкула "Распальванне нянавісці альбо варожасці, а таксама знявага чалавечай годнасці". Паводле інфармацыі расійскіх праваахоўных органаў, ён выкладваў "экстрэмісцкія фатаграфіі і відэа" на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы. Падчас ператрусу ў ягонай кватэры былі знойдзеныя "нашыўкі з нацысцкай сімволікай і літаратура экстрэмісцкага зместу". Алег Рудакоў кажа, што хлопец зрабіў гэта "праз глупства, а сам ён даволі дабрадушны і мяккацелы чалавек". Да таго ж, здымкі гэтыя былі размешчаныя ў 2008 годзе, а ў таварыства Кухта прыйшоў у 2009-м. Але ўсе абвінавачанні ён прызнаў і цяпер знаходзіцца пад падпіскай пра нявыезд.

Алег Рудакоў: "Нам, безумоўна, вельмі шкада, што ён так зрабіў. Ён быў шараговы сябра, прыходзіў да нас толькі некалькі разоў. Але чамусьці следчыя органы зрабілі выснову, што, можа, мы ўсе такія там. Прыйшлі да нас у сядзібу, зрабілі ператрус. Вельмі шмат задавалі пытанняў наконт нашай эмблемы, наконт нашых сцягоў бел-чырвона-белых, наконт "Пагоні". Я ім даводзіў, што гэта нашыя гістарычныя сімвалы, што мы палітыкай не займаемся, знаходзімся вельмі далёка ад Беларусі. Увогуле, мне было цікава: чаму вы пра гэта пытаецеся, калі да нас з боку Беларусі пра гэта няма пытанняў? Мы грамадзяне Расіі, жывем у Іркуцку, ну, выкарыстоўваем мы гістарычныя сімвалы — якая розніца? Каб у нас, напрыклад, была эмблема "мядзведзь" — гэта было б добра ці не?"

Алег Рудакоў кажа, што цяпер справа атрымала "другое дыханне". Аляксей Кухта застаецца пад падпіскай пра нявыезд, а на допыты выклікаюць сяброў таварыства:

"Самае большае — хоць гэтага ж не можа быць! гэта няпраўда! — але калі яны ўсё ж нацягнуць і скажуць, што мы экстрэмісцкае аб'яднанне, то мне можа быць і пазбаўленне волі як



кіраўніку. Дзве нашыя арганізацыі — Таварыства беларускай культуры і моладзевы клуб "Крывічы" — могуць зачыніць. Але я спадзяюся, што гэтага не будзе. Мы ведаем, што гэта ўсё хлусня, мы экстрэмісцкімі справамі не займаемся, мы сапраўды патрыёты сваёй гістарычнай радзімы. І гэтым трэба ганарыцца. Мы грамадзяне Расіі, і мы не парушаем закон Расіі. Мы не займаемся палітыкай, не ўдзельнічаем у палітычных акцыях. Што злачыннага ў нашай дзейнасці?! Таму для нас важна, што мы з годнасцю прайшліся па цэнтральнай вуліцы Іркуцка, паказалі нашы традыцыйныя беларускія танцы, гучала музыка старадаўняя беларуская. Паказалі Іркуцку беларускую прысутнасць і еднасць".

*svaboda.org*

# БЕЛАРУСЫ СЕВАСТОПАЛЯ ДАЛУЧЫЛІСЯ ДА СВЯТКАВАННЯ ДНЯ ГОРАДА

10 чэрвеня ў Севастопалі на Гістарычным бульвары ляцела "Пагоня" і лунaлі бел-чырвона-белыя сцягі. Нацыянальныя таварыствы традыцыйна адзначалі Дзень горада.

Лаканічная, але выразная экспазіцыя Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" міжволі прыцягвала ўвагу. 120-годдзе нараджэння паэта, 95 гадоў як ён сышоў у іншы свет, 15 гадоў як з вершам "Пагоня", якая прагучала на ўстаноўчым сходзе, у Севастопалі ўтварылася першае ў гісторыі горада беларускае таварыства. Адметна тое, што ў статуце таварыства гаварылася аб падтрымцы суверэнітэту Беларусі, а сімваламі таварыства былі абраныя герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг, дэвізам – "Жыве Беларусь!" Нефармальным дэвізам таксама сталі словы з верша паэта: "Старадаўняй літоўскай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць". Па мясцовым радыё рэгулярна гучыць праграма на беларускай мове. Экспазіцыі музея Валера Барташа расказваюць пра творчасць паэта, аб прадстаўніках нацыянальнай беларускай эліты, тых, хто і сёння ў Беларусі адстойвае беларускасць, жадае, каб краіна была цывілізаванай, еўрапейскай.

Прывітанне і салідарнасць з усімі ў свеце, хто з "Пагоняй" у сэрцы. Шмат у чым дзякуючы вам ляціць старадаўні беларускі сімвал у краіне светлай і лунае наш сцяг.

*Валер Барташ*

# БЕЛАРУСКІ ХОСТЭЛ У ПРАЗЕ

Ураджэнка Беларусі адкрыла беларускі хостэл у Празе, куды пераехала 8 гадоў таму. Даўно марыла адкрыць свой хостэл. У верасні арэндавала трохпавярховы катэдж, сама зрабіла рамонт. Размаўляе прынцыпова па-беларуску.

Ёсць аднаасабовыя, двухасабовыя, шасціасабовыя пакоі. У меню — беларускія стравы. Для беларусаў прадугледжаныя зніжкі.

Аляксей Францкевіч, лідар "Саюза за мадэрнізацыю", лічыць, што хостэл можа служыць месцам правядзення беларускіх мерапрыемстваў. Паводле яго, у хостэле могуць спыняцца не толькі студэнты, але і музыкі, акторы, нават палітуцекачы з Беларусі.

*Паводле svaboda.org*

## НА РАДЗІМЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА ЎРУЧЫЛІ ПРЭМІЮ “ЗА СВАБОДУ ДУМКІ”

19 чэрвеня, у дзень народзінаў Васіля Быкава, на яго радзіме, у вёсцы Бычкі на Ушаччыне, уручалі прэмію “За свабоду думкі“.

Прэмія была заснаваная рухам “За Свабоду“ пад кіраўніцтвам Аляксандра Мілінкевіча і ўручаецца выбітным культурным і грамадскім дзеячам.



Сёлета лаўрэатамі сталі дзве асобы. Першы прэмію атрымаў 84-гадовы Алесь Белакоз. Заслужаны настаўнік Беларусі, заслужаны дзеяч культуры, ён быў сярод першых ушанаваных медалём імя Францыска Скарыны.

Белакоз стварыў унікальны Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-гістарычны музей, які ўзначальваў 30 гадоў.

Алесь Белакоз выступіў з доўгай прамовай. Пры канцы настаўнік, які, да таго ж, сам сябе вылечыў ад раку, заклікаў прысутных звяртацца да яго, “калі лекі не дапамагаюць“.

Другім лаўрэатам прэміі “За свабоду думкі“ стаў музыка Лявон Вольскі. Ён на ўрачыстасці не прысутнічаў, бо цяпер знаходзіцца ў Чарнагорыі. “Я пра Чарнагорыю доўга марыў, таму не магу адмовіцца, а пра прэмію нават і не марыў, таму таксама адмовіцца не магу“, — працытаваў яго словы кіраўнік “Руху за свабоду“ Аляксандр Мілінкевіч.

У папярэднія гады прэмію атрымлівалі Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін, Ада Райчонак, Алесь Пушкін, Уладзімір Някляеў.

*Паводле nn.by*

## ПАЛЯКІ ПАДПІСВАЮЦЦА ЗА АДМЕНУ СМЯРОТНАЙ КАРЫ Ў БЕЛАРУСІ

Шэсцьдзесят тысяч грамадзян Польшчы наведалі інтэрнэт-старонку сайта Праваабарончага цэнтра “Вясна“ з “Петыцыяй супраць смяротнага пакарання ў Беларусі“ на польскай мове. Толькі ў траўні каля дзесяці тысяч з іх пакінулі свой подпіс пад петыцыяй.

Цікавасць да праблемы смяротнай кары ў Беларусі істотна павялічылася пасля паказу фільма “Як выглядае правасуддзе ў Беларусі“, прысвечанаму расследаванню справы тэракту ў мінскім метро і паспешліваму выкананню гэтых прысудаў. Фільм быў створаны рэдакцыяй праграмы Superwizjer тэлеканала TVN. Паспрыяла гэтаму таксама размяшчэнне на некаторых сайтах, у тым ліку на старонцы “Хельсінскай фундацыі правоў чалавека“ спасылкі на польскамоўны варыянт петыцыі. Напрыканцы красавіка гэтага года ён быў змешчаны на сайце Праваабарончага цэнтра “Вясна“.

Польшча ў 1988 годзе ўвяла мараторый на смяротнае пакаранне, які прывёў да таго, што Вярхоўны суд замяніў усе вынесеныя смяротныя прысуды на 25-гадовы тэрмін турэмнага зняволення.

*svaboda.org*

## У БЕЛАСТОКУ АДЗНАЧЫЛІ 15-ГОДДЗЕ НАВУЧАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ Ў ШКОЛАХ

15 гадоў навучання беларускай мове ў школах Беластока ўрачыста адзначылі ў чэрвені з удзелам вучняў, настаўнікаў, прадстаўнікоў мясцовай улады і падляшскага самакіравання. Адмысловым госцем урачыстасці былі Агата Пасант і Ян Баркоўскі з фонду імя Агнешкі Асецкай. Госці з Варшавы прыехалі, каб пабачыць спектакль, у аснову якога ляглі вершы Агнешкі Асецкай у перакладзе на беларускую мову Аліны Ваўранюк.

Агата Пасант – дачка Агнешкі Асецкай – была ў захапленні ад спектакля і мілагучнасці вершаў на беларускай мове:

“Я вельмі хацела прыехаць у Беласток, бо ўпершыню ў гісторыі з’явіліся пераклады вершаў Агнешкі Асецкай на беларускую мову. Мне вельмі спадабалася гэтая ідэя, што хтосьці ўзяў гэтыя сучасныя і папулярныя тэксты. Думаю, што гэта добры спосаб камунікацыі з іншымі выканаўцамі з Беларусі, якія звернуцца да гэтых перакладаў, можа, гэтыя песні яшчэ будуць жыць. Вельмі добрая ідэя, акрамя гэтага мне спадабаўся сам спектакль, бо быў вельмі цудоўна зрэжысіраваны, з кожнай песенькі быў зроблены міні-спектакль“.

15 гадоў навучання беларускай мове ў Беластоку – гэта некалькі сотняў маладых беларусаў, якія мелі магчымасць вывучаць беларускую мову ў школе, хадзіць у тэатр, браць удзел у шматлікіх гуртках, якія прапагандавалі беларускую культуру. Плён гэтай працы моладзь і дзеці паказалі 6 чэрвеня на сцэне кіно “Форум“.

*racyja.eu*

## ЕГУ АДСВЯТКАВАЎ 20-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, які працуе ў Літве, у пачатку чэрвеня адсвяткаваў 20-я ўгодкі сваёй дзейнасці. За час існавання ЕГУ яго выпускнікамі сталі амаль 2000 студэнтаў, сярод іх каля 700 – у віленскі перыяд дзейнасці ўніверсітэта.

Міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс адзначыў, што ЕГУ рыхтуе будучае пакаленне Беларусі і дае надзею на стварэнне ў гэтай краіне адкрытага грамадства, якое будзе грунтавацца на ліберальных і дэмакратычных каштоўнасцях.

Міністр узяў удзел у штогадовай Асамблеі донараў Мэтавага фонду ЕГУ і ва ўрачыстасцях, прысвечаных 20-м угодкам дзейнасці ўніверсітэта.

“Падтрымліваючы ЕГУ, мы ўдзельнічаем у пазітыўных зменах у Беларусі“, – заявіў спадар Ажубаліс.

ЕГУ быў заснаваны ў 1992 годзе ў Беларусі, аднак у 2005 годзе, пад ціскам уладаў краіны, універсітэт быў пераведзены ў Вільню. Цяпер ва ўніверсітэце навучаюцца 1800 студэнтаў, большасць з якіх з’яўляюцца грамадзянамі Беларусі.

Мэтавы фонд ЕГУ – асноўны цэнтр донарскай дапамогі і падтрымкі, які збірае і размяркоўвае сродкі донараў. Фонд быў заснаваны ў 2008 годзе з ініцыятывы Еўрапейскай Камісіі і рашэння Рады міністраў паўночных краін.

*svaboda.org*

## БЕЛАРУСЬ ВЯРНУЛА СТАТУТ ВКЛ 1588 ГОДА

Эпапея з набыццём арыгінальнага асобніка Статута Вялікага Княства Літоўскага ўзору 1588 года скончаная. 7 чэрвеня яго прывезлі ў Мінск, дзе ўрачыста прэзентавалі. Са сталіцы Статут перавезлі ў Магілёўскі музей, дзе ён і будзе захоўвацца. Рэч у тым, што менавіта дырэктар магілёўскага музея Аляксей Бацюкоў ініцыяваў збор сродкаў на набыццё юрыдычнай рэліквіі. Усёй краінай назбіралі 15 тысяч даляраў, яшчэ 30 ахвяравала кампанія Alpari.

"Вельмі прыемна! Нам тэлефануюць, пішуць абсалютна незнаёмыя людзі і дзякуюць. Кажуць "дзякуй за гераічны ўчынак". Вельмі прыемна, што гэтая акцыя знайшла водгук сярод насельніцтва, сярод СМІ. Я хачу падзякаваць усім, хто адгукнуўся на акцыю не толькі грашамі, але проста словамі", – гаворыць у гутарцы з "Еўрарадыё" кіраўнік беларускага прадстаўніцтва Alpari Аляксандр Сабодзін.

Усяго ў свеце захавалася толькі 60 арыгінальных асобнікаў Статута. Дагэтуль ніводнага з іх у Беларусі не было. Зараз адзін з асобнікаў Статута будзе захоўвацца ў Магілёве.

*euroradio.fm*

## ЛОНДАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ АТРЫМАЛІ "СТАТУТ ВКЛ" ЯШЧЭ 28 ГАДОЎ ТАМУ

7 чэрвеня ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі адбылася ўрачыстая прэзентацыя першага асобніка трэцяга Статута ВКЛ, які пасля доўгіх дзесяцігоддзяў вярнуўся на радзіму.

Тым часам ужо амаль 30 гадоў іншы асобнік Статута ВКЛ 1588 года знаходзіцца ў калекцыі лонданскіх беларусаў. Карэспандэнт TUT.BY наведаў легендарную Беларускую бібліятэку і музей імя Ф. Скарыны і пагартаў нацыянальную рэліквію.

Беларуская бібліятэка і музей імя Францыска Скарыны ў Лондане – гонар не толькі беларускай эміграцыі, але і ўсёй беларускай нацыі. У яе калекцыі, збор якой пасля вайны распачаў рэктар Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі айцец Чэслаў Сіповіч, сёння больш за 30 тысяч кніг, рэдкіх рукапісаў, карт і дакументаў. Адно з цэнтральных месцаў у калекцыі займае трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага.

"Гэта трэцяя, найбольш дасканалая рэдакцыя "Статута ВКЛ", якая датуецца 1588 годам, – распавядае карэспандэнту TUT.BY нязменны кіраўнік "Скарынаўкі" і захавальнік беларускай спадчыны айцец Аляксандр Надсан. – Вядома, што гэты трэці Статут ВКЛ выдавалі ў віленскай друкарні братоў Мамонічаў тройчы: уласна ў 1588 годзе, у 1592–1593 і 1594–1595. Наш асобнік няпоўны, у ім няма першых старонак. Аднак паводле мовы я вызначыў, што ён належыць да аднаго з перавыданняў – верагодна, 1594 года".

Па словах айца Аляксандра, калісьці гэта выданне належала вядомаму віцебскаму этнографу Аляксею Сапунову, аб чым сведчыць ягоная асабістая пячатка на старонках рарытэта. У "Скарынаўку" ж выданне перадаў адзін з беларускіх эмігрантаў у ЗША. "Адмыслова для гэтага я ў 1974 годзе нават лятаў у Нью-Ёрк", – прыгадвае кіраўнік бібліятэкі.

Ён распавядае, што з просьбай паглядзець на артэфакты эпохі ВКЛ у Беларускую бібліятэку звярталіся нават з літоўскай амбасады ў Лондане.

"Асабліва маладзёны былі вельмі здзіўленыя, калі я паказаў ім арыгінал "Статута" на старабеларускай мове. Ім жа з пялюшак распавядаюць, што ён пісаны па-літоўску. Прапанаваў пачытаць. "Не, – кажуць, – мова змянілася". "А я ж, беларус, магу чытаць, – адказваю, – і разумею нават", – смяецца Надсан.

Навіну аб вяртанні ў Беларусь першага асобніка Статута ВКЛ айцец Аляксандр сустракае задаволеным: "Дзякуй Богу! Нарэшце нашы скарбы, раскіданыя па ўсім свеце, вяртаюцца дамоў. Туды, дзе ім трэба знаходзіцца. Трэба быць удзячным людзям, якія дапамаглі выкупіць гэтую рэліквію".

Трэці Статут ВКЛ – гэта толькі адна перліна з "вялікалітоўскай" калекцыі "Скарынаўкі". Тут можна ўбачыць фрагменты "Біблії", выдадзенай усходнеславянскім першадрукаром Францыскам Скарынам у 1518–1519 гадах, татарскі "Аль-Кітаб", пісаны па-беларуску арабскімі літарамі ў XVI стагоддзі, больш за 100 унікальных карт і шмат што яшчэ. Многіх з гэтых рэліквій, карпатліва сабраных па ўсім свеце, няма ў Беларусі.

"Мы збіралі на эміграцыі ўсё, што было магчыма, каб захаваць нашу найбагацейшую гісторыю і культуру", – кажа айцец Аляксандр Надсан. Тым часам, ад моманту афіцыйнага адкрыцця ў 1971 годзе Беларускую бібліятэку і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане наведалі некалькі тысяч беларусаў і замежнікаў – усе, хто цікавіцца Беларуссю і яе шматвяковай спадчынай.

*Кастусь Лашкевіч, tut.by*

## БЕЛАРУСКІ ВЕЧАР ПРАЙШОЎ У ГРУЗІІ

Для аб'яднання і ўмацавання сувязі паміж беларусамі Грузіі паўтара года таму быў створаны Саюз беларусаў Грузіі "Беларускія сябры". У яго задачы ўваходзяць пашырэнне кантактаў паміж брацкімі народамі, якія насяляюць Грузію, умацаванне сувязяў, а часам і іх аднаўленне, паміж беларусамі Грузіі і ўласна Беларуссю, а таксама данясенне да масаў звестак аб культуры, гісторыі і звычаях гэтага народа.

Апошняе мерапрыемства таварыства – вечар пад назвай "Беларусь – Радзіма мая" – прайшоў ва ўтульным доме сям'і Максімавых, куды былі запрошаныя члены Рады лідараў нацыянальных меншасцяў.

Арганізатар вечара – намеснік старшыні Саюза беларусаў Грузіі Лідзія Лярскі-Шацірышвілі – падзялілася ўспамінамі аб сваім першым прыездзе ў Грузію. Тады яе здзіўленне выклікала тое, што ў гэтай краіне мала ведаюць аб Беларусі і беларускім народзе. Яна таксама распавяла аб сямі цудах беларускага краю: Белавежскай пушчы, Брэсцкай крэпасці, Мірскім замку, Сафійскім саборы ў Полацку, Будслаўскім касцёле бернардынцаў, возеры Нарач і Бабруйскай крэпасці.

Гаспадыня дома, сябра Саюза беларусаў Грузіі Алена Максімава, народжаная Федаровіч, пазнаёміла з гісторыяй і культурай Беларусі, геральдыкай і нацыянальнай сімволікай. Быў праведзены невялікі экскурс па эканоміцы, адукацыі і ахове здароўя. "Беларусь называюць сінявокай, бо на яе тэрыторыі багата азёраў, – адзначыла А. Максімава, – а народнымі сімваламі лічацца валошка і бусел, што характэрна для многіх краінаў свету".

Ліліян Благоева прачытала вершы сучаснага беларускага паэта Анатоля Вярцінскага і распавяла аб дружбе, якая звязвала яе сям'ю з сям'ёй паэта. Напрыканцы вечара гасцей чакаў стол са знакамітымі беларускімі дранікамі са смятанай.

*Кацярына Радкевіч, Хатуна Мамніяшвілі*

# "АЗІРАЮЧЫСЯ РАСОЙ ВЫЕТЫМІ ВАЧЫМА"

Пабачыў свет новы том Беларускай мемуарнай бібліятэкі, які склалі ўспаміны дзеяча беларускай эміграцыі ў ЗША Барыса Данілюка (1923–2011).



*Барыс Данілюк*

"Азіраючыся расой выетымі вачыма" аўтар пісаў у апошнія гады жыцця, адначасова складаючы "Здымкавы летапіс жыцця і дзейнасці беларускае эміграцыі ў Амерыцы ды іншых заходніх краінах".

І першы, і другі творы, на жаль, так і засталіся няскончаныя.

Найбольш падрабязна ва ўспамінах распавядаецца пра даваеннае і ваеннае жыццё Барыса Данілюка на Слонімшчыне.

Са старонак гэтых мемуараў перад чытачом паўстае рэальная, негераізаваная постаць бацькі аўтара — айца Хведара Данілюка (1887–1960), падаюцца побытавыя падрабязнасці жыцця сям'і праваслаўнага святара ў міжваеннай Заходняй Беларусі з перыядычнымі пераездамі з аднаго месца на другое, неабходнасцю наноў адбудоўваць гаспадарку, залежнасцю ад дабрабыту вернікаў і настрою царкоўных уладаў.

Барыс Данілюк распавядае пра сваё школьнае навучанне, згадвае пра сваё выключэнне з гімназіі ў Слоніме. Адлюстроўваюцца ва ўспамінах нюансы складаных беларуска-польскіх дачыненняў. Падрабязна распавядаецца таксама і аб прыходзе савецкай улады, аб нямецкай акупацыі, надзеях на беларусізацыю. Аўтар расказвае пра ўцёкі ў Нямеччыну, і апошнія старонкі падрабязных успамінаў аўтара апісваюць побыт у гэтай краіне.

Далейшыя падзеі, збольшага звязаныя з дзейнасцю Барыса Данілюка ў ЗША, аўтар не паспеў выкласці гэтак жа паслядоўна, як папярэднія гады свайго жыцця.

Аднак выдаўцы, для стварэння завершанага аповеду, скарысталі ў кнізе невялікія ўспаміны, што былі напісаныя дзеячам на просьбу эміграцыязнаўцы Лявона Юрэвіча для перыядычнага выдання "Запісы БІНіМ". Храналагічна мемуары даходзяць да пачатку 1970-х гадоў, спыняючыся на смерці ўладыкі Васіля (Тамашчыка).

Успаміны багата ілюстраваныя шматлікімі здымкамі з сямейнага архіву. У тым ліку тут змешчаныя і рэдкія выявы падзеяў на Слонімшчыне часоў Другой сусветнай вайны, дапоўненыя грунтоўнымі каментарамі.




**Даведка:**

Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. Мінск: Лімарыус, 2012. — 524 с. — (Беларуская мэмуарная бібліятэка).

Раней у Беларускай мемуарнай бібліятэкі выйшлі "Успаміны пасла" Аляксандра Стагановіча, мемуары ягонай жонкі Марыі Стагановіч, успаміны дзеяча XIX ст. Яўстаха Янушкевіча.

*Паводле nn.by*

# БЕЛАРУСЫ ЛАТВІІ ШЫРОКА АДЗНАЧЫЛІ 130-ГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ І ЯКУБА КОЛАСА

У Латвіі прайшоў III Міжнародны фестываль беларускай народнай песні, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Старт фестываля пачаўся ў Латгаліі ў Зілупе, а потым прайшоў па ўсёй Латгаліі.

З вітальным словам выступілі старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова, дэпутат XI Сейма Латвіі, кіраўнік парламенцкай групы па супрацоўніцтве з парламентам Беларусі Алёна Лазарава, саветнік, загадчык консульскім аддзелам пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы Андрэй Кожан, прадстаўнік міністэрства культуры Латвіі Аніта Кліцберга, прадстаўнік Рыжскай думы дэпутат Руслан Панкратаў.

У канцэрце ўдзельнічалі творчыя калектывы беларускіх суполак Латвіі, народны ансамбль танца "Vija" г. Рыга. Шаноўным госцем фестываля быў таксама народны фальклорны ансамбль з г. Мінска "Вербіца", які напярэдадні з канцэртамі за тыдзень праехаў усю Латгалію.

Саюз беларусаў Латвіі прадстаўлялі ансамбль "Надзея", ансамбль народнай песні "Паўлінка" таварыства "Мара" г. Ліепая, ансамбль "Рябинушка" славянскага культурнага таварыства Прэйльскага краю "Радуга", таксама ансамбль "Вавёрачка" рыжскай асноўнай беларускай школы імя Янкі Купалы, салісты з Даўгаўпілса Сяргей Піманаў і Павел Прозар, артыстка Латвійскай Нацыянальнай оперы Тамара Клімко і іншыя.

У Даўгаўпілсе ў межах Дзён славянскай пісьменнасці на мерапрыемствах горада сярод 300 удзельнікаў былі і беларускія калектывы: народны тэатр фальклора "Цярэшка" з г. Глыбокае творчыя калектывы Цэнтра беларускай культуры "Купалінка" і "Ластаўкі". Канцэрт славянскай культуры пад назвай "Дзве сястры – Беларусь і Расія" адбыўся ў Палацы культуры. Удзельнікаў віталі віцэ-мэр Лівія Янкоўская і прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса Беларусі і Расіі. Закончыўся фестываль у Рызе, у памяшканні рыжскага латышскага таварыства ў залатой зале на вуліцы Меркеля, 13.

*Таццяна Бучэль*

# Актывісты ўшанавалі памяць Юркі Моніча



Грамадскія актывісты аб'язджаюць мясціны на тэрыторыі Барысаўскага і Крупскага раёнаў Мінскай вобласці, звязаныя з памяццю змагара з бальшавікамі Юркі Моніча.

Мерапрыемства прысвечанае 88-годдзю смерці легендарнага барацьбіта за незалежную Беларусь.

"У лесе каля вёскі Вялікія Жаберычы на тым месцы, дзе ў 1924 годзе быў забіты Юрка Моніч, усталяваны памятны крыж. Цяпер мы ўсклалі да крыжа кветкі, а раней наведалі месца ў Барысаўскім раёне, дзе бальшавікі расстрэльвалі ні ў чым не вінаватых людзей. Гэта нашы мясцовыя Курапаты. Зараз выпраўляемся на радзіму Юркі Моніча", — паведаміў карэспандэнту "Свабоды" праз тэлефон актывіст Андрэй Аляхновіч.

У паездцы бралі ўдзел больш за 20 чалавек, сярод іх актывіст руху салідарнасці "Разам" Аляксандр Макаеў, маці вядомага апазіцыянера Вячаслава Сіўчыка Галіна Сіўчык, мастак Алесь Пушкін, былы палітвязень Васіль Парфянкоў.

*svaboda.org*

*Фота змясціў у сацыяльных сетках мастак Алесь Пушкін*

# На Падляшшы прайшоў велапрабег у памяць Язэпа Булак-Балаховіча




23-24 чэрвеня ўдзельнікі велапрабегу ў памяць Язэпа Булак-Балаховіча пад бел-чырвона-белымі сцягамі пераадолелі шлях з Гайнаўкі да Белавежы і назад.

Маршрут прабегу быў выбраны невыпадкова. Як вядома, Язэпа Булак-Балаховіча савецкія агенты забілі ў чэрвені 1923 года па дарозе паміж Гайнаўкай і Белавежай. Удзельнікі рэйду наведалі магілу Язэпа Булак-Балаховіча, а таксама крыж на месцы гібелі змагара за незалежнасць Беларусі.

Велапрабег традыцыйна быў праведзены арганізацыяй "Беларуская Нацыянальная Памяць". Гэта ўжо другі рэйд, зладжаны ў памяць Язэпа Булак-Балаховіча. Першы прайшоў у 2010 годзе.

Нагадаем, што Язэп Булак-Балаховіч — родны брат генерала Станіслава Булак-Балаховіча, вядомага ўдзельніка антыбальшавіцкай барацьбы ў 1918-1920 гадах. Пад яго кіраўніцтвам Язэп ваяваў у вайсковых фармаваннях.

*euroradio.fm*

# Беларускі каляндар памятных дат на ліпень 2012 года

1 ліпеня — 85 гадоў таму нарадзілася Зора Кіпель (1927–2003), бібліёграф, літаратуразнавец, грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў ЗША.

4 ліпеня — 40 гадоў таму, у 1972-м, у ЗША адкрыўся беларускі рэлігійна-грамадскі цэнтр "Белэр-Мінск" (Глен-Спэй, Нью-Ёрк).

6 ліпеня — 10 гадоў таму, у 2002-м, памёр Міхась Рагуля, грамадскі і культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША, сын Васіля Рагулі. Пахаваны на могілках у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША)

7 ліпеня — 130 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Янка Купала (Іван Луцэвіч), народны паэт Беларусі.

14 ліпеня — 100 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Пётр Гайдзель (Браслаўшчына), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі і ЗША. Памёр у лютым 1988 г. у Вісконсіне (ЗША).

19 ліпеня — 85 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Міхась Саўка, беларускі і бельгійскі мастак-рэстаўратар, мастацтвазнавец, археолаг.

19 ліпеня — 35 гадоў таму, у 1977-м, у Мураі (Кентукі) памёр Іван Любачка, настаўнік, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

25 ліпеня — 115 гадоў таму, у 1897-м, нарадзіўся Антось Галіна (сапр. Міхась Міцкевіч), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША, брат Якуба Коласа.

25 ліпеня — 15 гадоў таму, у 1997-м, памерла Наталля Арсеннева, паэтка, перакладчыца, драматург, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахавана ў Рочэстэры (Нью-Ёрк, ЗША)

28 ліпеня — 115 гадоў таму, у 1897-м, памёр Янка Лучына (сапр. Янка Неслухоўскі), паэт. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

28 ліпеня — 40 гадоў таму, у 1972-м, у Нью-Ёрку памёр Язэп Гладкі, грамадскі дзеяч, фалькларыст, этнограф, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

31 ліпеня — 210 гадоў таму, у 1802-м, нарадзіўся Ігнат Дамейка (маёнт. Мядзведка, цяпер Карэліцкі р-н), удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, дзеяч эміграцыі, філамат, геолаг, мінералог, нацыянальны герой Чылі.

31 ліпеня — 70 гадоў таму, у 1942-м, недалёка ад Навагрудка гітлераўцы расстралялі 60 мірных жыхароў і двух каталіцкіх святароў — Міхала Далецкага і Юзафа Кучынскага.

**Беларусы ў свеце**
№6(122), чэрвень 2012

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27